Цана асобнага № 40 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

Умовы падпіскі:
На год......12р. —
На поўгода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Вольная Беларусь!



№ 11. 1918 г. 31-го сакавіка 1918 г. № 11.

## Устаўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскаго царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ні пытаючыся народу, ен укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вескі беларускія. Цяпер мы. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтаго часу БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА АБВЕШЧАЕЦЦА НІЗАЛЕЖНАЙ І ВОЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ. Самі народы Беларусі, у асобі свайго Устаноўчаго Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзяржаўныя зьвязі. якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці у адносіны з зацікаўленымі старонамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берэсьцейскаго трактату. якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваеваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ. а ласьне: Магілеўшчыну. беларускія часьці Міншчыны, Гродзеншчыны (з Гродной, Беластокам і інш.) Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселеныя беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 г..

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што усе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу у поўнай меры здзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.*

Дана у Менску Беларускім 24 сакавіка 1918 году.

## Вольная Беларусь.

Цяжка стало на Беларусі,—цяжка і сумна, як у гасподзі абездоленаго. Зруйнованы гарады, папалены вескі, разбураны сады, павырубаны дзядоўскія пушчы. Змоўклі абшары, ні гамоняць шчыр-боры.

І як з руін заніпаду, як з ложа пакуты устае Беларусь і голасам поўным жалю і нілюдзкае мукі абвешчае сьвету, што жыве яна і жыць хоча і жыць яна будзе.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла, што Беларусь становіцца нізалежнай і вольнай дзяржавай. Скінуто з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і нізалежны край. «На моцы гэтаго». уставуе Грамата: «трацяць сілу усе старыя дзяржаўныя зьвязкі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае беларускі народ на сьмерць, дзелючы землю яго на часткі.»

Як разсякаючы страшную цішу, што агарнула наш край спакон веку, разнясецца вестка па ўсяму сьвету, што жыве Беларусь, што горо айчыны нашай вядзе нас ні к сьмерці, а к жыццю. Шлях паратунку знайдзен. Уваскросла Беларусь! Паўстало к жыццю тое, што ворагі пахавалі. Ажывае гістарычная дзяржаўная Белая Русь!

## Рашучы акт.

А 6-й гадзіне на ранку 25 сакавіка Рада Беларускае Народнае Рэспублікі большасьцю галасоў пастанавіла аб тым, што Беларуская Рэспубліка абвешчаецца нізалежнаю. У той самы дзень, посьля дванадцатае гадзіны, так само большасьцю галасоў Рады, выдана Устаўная Грамата, у якой, разам с пастановаю аб нізалежнасьці, адзначано, што трацяць сілу старыя дзяржаўныя зьвязі, даваўшыя права чужому ураду падпісаць у Берэсьці міравы трактат аб раздзяленню Беларусі і што Урад Беларускай Народнай Рэспублікі павінен дамагацца перагляду гэткаго становішча Беларусі у інтарэсах яе нідзялімасьці і едпасьці.

Вышэй памяненым актам аб нізалежнасьці, беларускі народ на увесь сьвет чадае голасна знаць аб сабе, аб жахусаго сьмяртэльнаго раздзелу беларускай тэррыторыі, які зроблен праз гістарычныя старыя адносіны Беларусі да Масковшчыны, што на працягу каля поўтары соткі гадоў аж да апошняго часу лічылася з нашаю бацькаўшчынай ,толькі як с правінцыяю, праводзючы жудасную ассымілятарскую палітыку. Большэвікоўскі урад ні вытрымаў да канца тону Троцкаго і мусіў такі падпісацца пад тою міравою умоваю, якую вымагалі рэальныя палітычныя абстановы. Ведама, глядзючы, як на частку Расіі, як на маўчлівую яе правінцыю, мог тое самае зрабіць і усялякі іншы Петраградзкі або Маскоўскі Урад, ні гледзючы на тое з якіх ен быў бы складзены партыяў. Але калі паглядзець на гэту справу вачыма беларуса (да якої б ен партыі ні належаў), дык усе гэта робіцца йнакшым. Гвалтам расійскіх цароў народ беларускі быў так прыціснуты, што ні мог вольна і адважна разьвіваць свае нацыянальна-культурнае багацце, сваю духоўную істоту. Праз ассымляцыю яго інтэлігэнцыя адхілялася у бок, мова яго зрабілася «простаю», ен стаў «простым», «тутэйшым рускім» (або «паляком», калі ен каталіцкай веры) і быў толькі цестам, з якога царскія чыноўнікі мясілі, што сабе хацелі, прыдумвалі дзеля яго усялякаго гатунку вы[...]бы, абы толькі стаў ен «искони русскимъ и православнымъ». І вось загрукацела год таму назад рэвалюцыя, зазьвінела

чы наперад ды брашы: ні кажы таго, чаго ні спадабаюць, пагладзь іх словам па галоўцы, скажы ім, што яны—соль зямлі, што зробіць тое, што ім хочацца ні толькі можна,—трэба: падагрэй іх, паддай пары ды вядзі куды хочуць. Можа ім выпіць хочацца, а ты ведаеш, дзе гарэлка схована. Вядзі! Будзеш панам, пакуль давядзеш, пакуль напьюцца. А што далей будзе — ні ведаю. Можа ім ні толькі гарэлкі хочацца, можа якога іншаго дабра. Можа хочацца панаваць, кіраваць наймудрэйшаю палітыкай,—гаспадарыць, хоць ні ведаюць, с катораго канца пачаць. Усё роўна.—спосаб гэтакі самы, як з гарэлкаю, а мэта гэтаго панавання трохі даўжэйшая, але-ж ні натта доўгая. Ось гэтакае панство без далёкай сьветлай мэты, без дарогі, без чыстых рук, хоць за ім тысячы народу пойдзе, заусюды хамствам сьмярдзець будзе ды усіх сваіх падданых у балото няволі завядзе. А па вучонаму, па-грэцку, называецца гэта «дэмагогія».

(Працяг будзе.)

**Н. Чарноцкі.**



**Наум Прыгаворка.**

*(Вінцук Дунін-Марцінкевіч).*

# Залёты.

*Сьмяхотная штука у 3-х дзеях.*

(Напісана у Люцынцэ 8-го сьнежня 1870 году).

(Глядзі № 10).

**Зьява VI-я.**

*Сабковіч і Марыся.*

Сабковіч. А! ты яшчэ тут? Добра, прыбяры тутака у пакоі, вынясі стол і можаш сабе зьбірацца да бацькоу. Як раз учора скончыуся год твае службы у мяне.—дык што...

Марыся. А заплату,—ці ад пана, ці ад паненкі адбяру? Я ж цэлы год ні гроша ад пана ні мела.

Сабковіч. Праўда, праўда, мая даражэнькая, дык што... Прыбліжся і паслухай: трэба нам яшчэ парахавацца. (*сеўшы, выймае з бумажніка картачку і чытае*) Паступіла ты да мяне 17 траўня,—дык што...

Марыся. Але!

Сабковіч. І згадзілася за 18 рублеу у год.

Марыся. Так паночак!

Сабковіч. Ні сто раз казау я вам называць мяне ясным панам,—дык што...

Марыся. Так, ясны пане!

Сабковіч. 18 кастрычніка ты захварэла і пралежала тры тыдні,—дык што...

Марыся. Бо па... бо ясны пан ні дау, водле умовы, кажуха,—я празябла і захварэла.

Сабковіч. Фі! мая даражэнькая, грэх так лгаць, дык што... Цепла было, як у летку, і ты захварэла у самы гарачы рабочы час. Я быу змушаны наняць на твае мейсцо падзеншчыцу і плаціу я ей двузлоты у дзень... За тры тыдні гэта выйдзе шэсьць рублеу трыццаць капеяк. А дзеля таго, што ты праз тры тыдні нічога ні рабіла, лежала, ела дарма хлеб і ні мала клопату рабіла маей сястрэ,—я табе рахую яшчэ па трыдцаць капеяк у дзень:—разам гэта будзе дванаццаць рублеу трыццаць капеяк, дык што... Я абмыліуся,—ні трыццаць, а шэсьцьдзесят капеяк. Цяперака далей—дык што... памятаеш, як у верэсьні быдло патаптало мне дзесяць град капусты—за тое, што вы ні пільнавалі быдла, я палажыу на усіх вас па тры рублі штрафу,—дык што...

Марыся. Але ж, ясны пане, быдло належыць да пастуха.

Сабковіч. Ціха!— дык што... маўчы і слухай. Я зауседы старых прытрымваўся закопау—шакжаш і у вас у канцэлярыі уся грамада адвечае за аднаго. Дык ось што... за капусту тры рублі штрафу. Трэцце:—на каляды, памятаеш—прасілася ты на два дні да хворай маткі, дык што... я маю мягбае сэрцо, пазволіу табе пайсьці, а ты,. заместа двох, прасядзела тамака шэсьць дзен. Дык што... сама прыстанеш на гэта, што за чатыры дні справедліва будзе адрахаваць табе наймеш па дваццаць дні капеяк,—дык што... гэта будзе рубель: сама бачыш, які я справядлівы... Далей, за тое, што ты прыйшла на чатыры дні пазьней, як трэба,—два рублі. Дык што... усяго на усе выходзіць: восемнаццаць рублеу шэсьцьдзесят капеяк, але я, маючы на увазі тваю шчырую службу, дарую табе гэтыя шесцьдзесят капеяк... дык што...

Марыся. Паночак, ясны пане! Ці ж я цэлы год дарма працавала?

Сабковіч. Дык што... шакжаш ты сама чула, мая даражэнькая, што ні за што я табе шмат ні налічыу.

Марыся. Не, гэтак ні будзе,—я за сваю крыўду пададам да пасрэдніка жалабу.

Сабковіч. Што? Ты мяне страшыць будзеш! Пісьні толькі—ураз жа дам знаць, што ты мяне абабрала. Мусіць памятаеш, як я, на трэці дзень твае службы у мяне, пасылау цябе шукаць папенку у пакоях на гары; ні дажда ушыся, сам пайшоу і бачыу, як ты выходзіла с пакою, у катором я трымаю свае грошы. Хіба ты ні шукаючы сястры туды заходзіла, бо яна тамака ніколі ні бывае, дык што...

Марыся. Па... ясны пане! Ці гэта па-хрысьціянску крыўдзіць так бедную дзяўчыну? Паслау пан да пакою шукаць паненкі,—я, шукаючы усюды, заглянула і да таго пакою; то ж я ні ведала, ці есьць тамака якія грошы, ці німа. У пакой я ні уходзіла, бо як угледзіла, што там на стале ляжаць грошы, то, стараніўшыся, ужо ні пакідала дзьвярэй, чакаючы, каб ці пан, ці паненка прышлі. Чаму-ж пан тады ні казау мяне абшукаць, а цяпер так крыўдзіш?!

Сабковіч. Дык што... ні маю і часу і ахвоты гутарку с табой разводзіць. Прыбяры у пакоі, здай паненцы начынне і ідзі сабе з Богам, а калі пісьнеш, што я табе ні заплаціу, ураз жа дам знаць, што мяне абабрала і усе будуць пальцамі на цябе паказываць, дык што... (*пайшоу*).

**Зьява VII-я.**

*Марыся* (адна).

Марыся. Мой Божачка міленькі! Служыла я у панох, да нігдзе мне такой крыўды і такой вялікай ганьбы ні даваласся сустрэць. Усе паны былі добрыя, адзін толькі нашоуся круцель. (*плача*). Няхай жа сьлезы мае падуць на яго душу. Што я цяпер буду рабіць? Спытаюць бацька, маці—многа пераз год зарабіла? (*малая пауза*). Ды ці мая ж у тым віна? Ведала ж я, бяздольная, што натраплю на такога круцеля? А як чыста мая душа, так сьмела раскажу бацьком маю крыўду,—яны уймуцца за сваю адыначку і да пасрэдніка пададуць жалабу.

**Зьява VIII-ая.**

*Марыся і Пятрук.*

Пятрук. (*усунуўшы галаву у дзьверы*) А ці паненкі тут німа?

Марыся. Бачыш, што німашака.

Пятрук. (*блізка падышоўшы да Марысі*). Што ты, мая ягадка, так надулася, вось пузыр валовы? (*падскочыўшы яшчэ бліжэй да яе, абыймае яе і хоча пацалаваць, а яна адпіхаіць яго, кажучы:* «адчапіся!» —*тады ен весяла пяе*):

Чаго лезеш ка мне? Я ж табе ні роуня.
Ты шавец—капылец, а я—бандароуна!

Марыся. Адчапіся! (*бье яго кулаком па карку*). Добра табе весяліцца, калі ніхто ні рупіць; я ж вот служыла цэлы год і зарабіла хвігу.

Пятрук. Альбо што?

Марыся. Палічыу, паганец, жыдоускім манерам,—то якіясь штрапы, то маю хваробу,—так што я асталася яму вінна шэсцьдзесят капеяк.

Пятрук. А паганец, а ніхрышчоная сабака! А яшчэ кажа сябе звапь ясным панам. Яго, анцыпара, цемным, нічыстым маніць трэба. Ні тужы, мая галубка! Ты павернеш да бацькоу, будзеш выглядаць мяне. Ні раз таскуючы ды выхіляючыся чэраз вакопца, засьпеваеш:

У агародзі майран родзіць,
Да Марысі пан Ян ходзіць,
Радзі, радзі майраначка,
Хадзі, хадзі мой Янaчка.

А ты места Янaчкі засьпеваеш—Пятручок,—ні праўда ж? (*залецаецца да яе*).

Марыся. Ідзі ты! (*адпіхае яго*).

Пятрук. Як ні шарашыся, да я ведаю добра, што я табе па сэрцы: ты б рада была і зараз засьпеваць:

Прыедзе ка мне—рада буду,
Я с спадніцы зраблю буду.
Нашмаруеш дзегцям кола,
Дый паедзем да касьцела.

Марыся. Нечаго запірацца,—можа б і рада была, да калі ведаю добра, што бацькі ні прыстануць: яны ж пусьцілі гэты год на службу, каб зарабіла сабе на выправу дзеля таго, што хочуць мяне аддаць у хату багатаго, хоць старога ужо, Апанаса Губара. Казалі, што ен мае пару коней, дзьве каровы, два валы да і сьвіран ні пусты і у гарудах ні стоупіцца.

Пятрук. Ах, ты гадзіна! На пальцах, бач, ужо палічыла, што Панас мае. Дык гэта так? Новае сітко на калочку вешаеш, а старае пад лаву кідаеш? А знаеш:—стары друг лепш за новых двух. Нічога с таго ні будзе. Я цябе ні на жарты палюбіу,—хоць бы цэлы сьвет прышлося да гары нагамі перавярнуць, то усе такі с табою ажанюся. Ну, ведама, калі ты будзеш ні ат таго. Панас—стары хрэн, якое табе жыцце з ім будзе? Я ж малады, працавіты, статэчны, да гарэлкі ні гад,—цябе ж, мая зязюлька, так мілую, што як цень за табою цэлы век бы цягауся. (*сьпевае*).

Жаваранак у полі звоніць,
За Марысяй Пятрук гоніць;
Хлапец відны, маляваны,
Душой, сэрцам ей адданы.

А што мо' я хлушу? Пацалуй жа мяне за тое... (*падбліжаецца да яе, а яна адпіхае*).

Марыся. Пачакай крыху! Як павенчаемся, тады цябе пацалую,—цяпер жа ні йдзе. Бог будзе гневацца і у гаспадарцы нам ні папанцуе.

Пятрук. Э-э-э! Тады я цябе і прасіць ні стану: цікунка быццам сароміецца, а ведаю добра, што так бы і кінулася на шыю. (*пяе*).

Да калі ж ты бандар, набі ж ты мне бочку,
А я цябе пацалую у цемным куточку.

Марыся. Да годзе ужо, годзе языком малоць! Мне трэба ісьці да бацькоу, (*уздыхае*) а ты тут, з другімі дзяучатамі цягаючыся па вечарынкам, мяне бедную забудзеш.

Пятрук. Бог мяне пакарай, калі я зараз, як ты нас пакінеш, ні падзякую за службу. Ніхай анцыпар і мне ні плаціць: я,—хваліць Бога,—у добрых паноу служыу, накапіу сабе пяцьдзесят карбаваных,—маю, чым гаспадарку запамагчы. Пайду да цябе у прымакі і зажывом па Божаму.

Дуэт.

Пятрук.
Пойдзеш адсюль—ні забуду,
У прымы к табе скора буду;
Станем шчыра працаваць,
А шчырэй цябе кахаць.

Марыся.
Панас са мной ні дасьць рады,
Буду чакаць за Каляды,
Бо мой мілы Пятрук,
Гэта сталы дзяцюк.

Пятрук.
Так мяне моцна кахаеш,
То напэуня прычакаеш,
Пераможам бацькоу дур,
Дый зажывом чэраз чур.

Марыся.
Як бацькі захочуць мусіць,
Я ні стану вельмі трусіць,
Загалашу са усіх сіл—
Апанас то мне ні міл.

*Марыся і Пятрук* (разам).
Як бацькі нам сваю волю
Скажуць, то мы нашу долю
Богу ручым; Ен місьцюк,
Збавіць нас с тых цяжкіх мук.

Марыся. Мы тут загаварыліся, а мне пара ужо у дарогу. Памажы упратаць пакой, а там пайду с паненкай папрашчаюся.

Пятрук. Ці ж ты мяне на прашчанне ні пацалуеш? (*падбліжаецца да яе*).

Марыся. (*стыдліва*) Да калі ж я саромлюся...

Пятрук. Чаго? Чы ж ты ні мая нявеста? Дзіуныя гэтыя дзяучаты! Перад вянцом сароміцца сваіх жаніхоу цалаваць, а па шлюбе, то і дзяцюкоу рады.

Марыся. (*даганяючы Пятрука, каторы уцекае*) Ах, ты паганец! Будзь пэуны, што я нікога ні пацалую!

Пятрук. А мяне...

Марыся. Ну... тагды—па шлюбе... дзело другое; тагды па закону Боскаму я павінна цябе слухаць.

Пятрук. Паслухай жа цяпер, мая ягадка.

Марыся. Боязна, мой Пятручок. Часам хто угледзіць, (*угледаецца на усе бакі*).

Пятрук. Німа нікога у пакоях, а паненка пашла да кухні. Ну... (*падсунуушыся блізка да яе, сьпевае*).

Сплюшчы вочы, а так... скора
Пацалуй, мая сікора.

Марыся. Што рабіць,—ты ні атчэпішся, пакуль ні пацалую (*цалуе яго ды, адскочыушы, закрывае вочы хвартухом*).

Пятрук. (*падскаківаючы,—пяе*) А я цябе пацалую у цемным куточку!..

Марыся. (*даганяючы яго,—бье*) Бач, паганец, яшчэ сьмяецца. Бярыся за стол да вынясем яго у першы пакой. (*ачышчаючы сцэну, выходзяць. Здалеку чуцен сьпеу Пятрука*: «А я цябе пацалую...»

**Заслона.**

---

## Дзея другая.

(Сцэна прэдстауляе бераг лесу: у глыбі відаць веску; на лева—багаты двор, а на права, каля лесу, так само у глыбі сцэны, мужычая хата. З-за дрэу відаць, высунутыя да паловы, калесы, на каторых сьпіць Гапон Барычка, зьвесіушы галаву; каля яго сьпіць сідзючы, апершы галаву у луку калес, яго жонка Куліна. Выходзіць з двара Пятрук с кароткай люлькай і у задуме гаворыць).

**Зьява І-ая.**

*Пятрук* (адзін).

Пятрук. Ледзь адпрог коні, так зараз выбег са двара, штоб пабачыцца с каханай Марысяй. Пан у залеты і фурман чэраз плоты. Ну, ужо гэтаму пану, го пэуня слу-

жыць пякельная сіла: што толькі здумае, то зараз і збудзецца. Выеждажаючы з дому бедавау, што на трох канех гонішь у залёты; глядзі ты,—ці даехалі мы да Машанскай карчмы, аж якісь жыд ляціць на каламажцы, а обак тут жа прывязана кабыла прыгожэнькая, аж міла на яе палюбавацца,—ножкамі пярэбірае—вось паненка у танцы,—пырскае весяла, шыю у дугу сагнуушы. Пан аж казау прыстаці, штоб падзівіцца хараства. Пытае жыда, чы ні прадасьць. А паганцу так і падавай. Слова за словам—старгаваліся пятнаццаць рублеу. Гэта ж рэч няслыханная. Я ад слова дау бы за яе трэйчы пятнаццаць да і яшчэ дзясятак дабавіу бы. Здаецца толькі, ці ні крадзеная, што так за нішто амаль уступіу. Пэуна і пан тое спазнау, бо адразу загуліу малую цану, а жыд, псяюха, і згадзіуся. Тут мяне пан скарэй па хамут і пастронкі конна да дому пагнау, а сам астауся чакаць у Машанскай карчме; і аж душа расла, як мы чацьвярнёй сюды пад'ехалі пад ганак. (*думае*) Цьфу ты пропасьць! Здаецца я гэту клячу гдзесь бачыу. Гнедзенькая з белай латкай на лбе... так жа белакапыта. Ну, вось... ані як ні прыпомню, а яна мне знаемая... (*падыходзіць да калес і, агледзіушы сьплючых, спыняецца зьдзіулены*) А-а-а! Гэта што за дзіво? Бацькі Марысі... Які дур на іх напау, што падкацілі пад лес калесы ды улёгшыся на іх паснулі. А-а... (*стукнуушы рукой у галаву)* пачакай! Ці ні у іх я толькі бачыу капля у каплю схожую кабылу? Здаецца так... так, так... Цяпер сьцяміу. Куліна прасыпаецца; схаваюся за дрэво да паслухаю, які чорт іх сюды загнау. (*хаваецца*).

**Зьява II-ая.**

*Гапон і Куліна.*

Куліна. (*пацягваецца, пазеваючы: працірае вочы; чухаецца; аглядаецца на усе староны, спуджаная; саскаківае с калес, заглядае у глыб лесу, а посьля будзіць мужа*).

Дзед, дзед, дзед, дзед!
А кабылкі нашай нет!

Гапон. (*У тым часі, як яна пяе, злазіць с калес і, агледаючыся на усе бакі, адказвае*).

Ці ты баба апалела,
Гдзе ж ты кабылку падзела?—
Ты ж на перадзі сядзела,—
Дык на вошта ж ты глядзела?
Што ж перад носам мела?
Што маучыш,—чы асавела?
Гавары, каб ты хварэла!
Чаго, гадзюка, зьбядзела,
Вось як бы сем дзен ні ела—
Блекату нажрацца усьпела.
С чаго ж ты так адурэла?

Куліна.

То ж ты, Гановка, мужчына,
К табе належыць скаціна.
Мая ж толькі віна цэла,
Што на перадзі сядзела.
І ты ж сядзеу на калесах,
Нос твой быу аж пры атосах;
Відаць мы, абое спалі,
Як у нас кабылку кралі.
Досыць з мяне таго стало,
Што паміж пнеу кіравала,
А як пасеку мінула,
Вось і я крыху заснула.
Так за што жа мяне лаеш?
Чы ж прыгаворкі ні знаеш?
Ні вер у сьвеці нікому:
Каню у полі, жонцы у дому;
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам ваду мерыць.

Гапон.

Глядзі каб была скаціна;
Будзе у рабоці дубіна.
Ты ж на перадзі сядзела,
Так на вошта ж ты глядзела?
Вось як вярнуся да дому
Мушу ісьці к аканому.
Ен там крыкне: «ах,гы гадзе!»
І кулака у вуха усадзе,—
І будуць розгі у рабоце,
Мо'а дзіця асіроце.
Скажа: душу чорту прадай,
За кабылку грошы аддай.
А тут, баш,—душа такая,
Што чорт яе ні прымае,
Бо да таго наш пан прыгожы,
Што душу у банк заложыу;
І чорт, відаць, гэта знае,
Так душ нашых ні купляе.
Цяпер сьмерць—пацеха цэла,
Ці ты баба апалела?
Гдзе ты кабылку падзела?
Ты ж наперадзі сядзела,
Так на вошта ж ты глядзела?
Як вазіу я у места дровы,
Усякі раз быу грош гатовы;
Усяго я меу здаволі,
Лыкау, сялядцоу і солі.

*Гапон і Куліна* (разам)

Як прапала кабыла,
Так ты мяне пагубіла,
Так ты мяне суздром зьела.
Ці ты баба апалела,—
Гдзе ты кабылку падзела?
Ці прыгаворкі ты знаеш?
Ні вер у сьвеці нікому;
Каню у полі, жонцы у дому.
Бо хто толькі жонцы верыць,
Той як сітам воду мерыць.

Куліна. Паглядзі толькі,—то ж мы амаль да самай хаты даехалі. Відна тутка скацінка астанавілася траву скубсьці, а як гэта свавольніца Марыся угледзіла, што мы сьпімо на калесах, пэуна с парабком ціха адпраглі клячку і завялі яе у хлеу. Зазаву тольки Марысю—абачым, што ты крычау на мяне ніспраўядліва. (*падыходзіць пад хату і кліча:*) Марыся! го, Марыся!...

**Зьява III-ая.**

*Тыя самыя і Марыся.*

Марыся. (*выбегаючы с хаты*). Хваліце Бога,—вось і бацькоу дачакала. Як можна было так доуга сядзець у месьці? Маці казала што к абеду вернецца, а тут ужо і вечар на дварэ. (*падышоушы бліжэй*) А гэта што,—гдзе кабыла? Да на чом ж бацькі прыехалі?

Гапон. Бачыш дачушка,—едучы мы абое паснулі і самі ні сьцямім, як тутака апынуліся. Ці ж вы с парабкам ні выпраглі кабылы?

Марыся. Парабак у лесі дровы сячэ, а я і у вочы ні бачыла кабылкі!

Гапон. Ах, доля ж наша горькая! Відна, як мы крэпка паснулі, зладзеі адпраглі скацінку; трэба папрасіць каня у суседа Ігната і гнацца.

Куліна. Ці ты адурэу, ці што? Куды ты пагонішся? Для цябе дзесяць дарог, а для злодзея адна.

Гапон. Да няужо-ж, рукі сашчаміушы, тут стаяць да галасіць? Гэта ж цэлае мае багацтво. Добра мне казау кум Тодар: «ні купляй ад аканома скацінкі,—рукой ні пойдзе, на крадзеным, баш, аусе ускормлена»; вось і прауда А тут яшчэ абецау аконаму на гэтым тыдні аднесьці рэшту грошы нідаплачанныя за кабылку. Што я, бяздольны, зраблю?..

**Зьява IV-ая.**

*Тыя самыя і Пятрук.*

Пятрук. (*выходзіць з-за дрэу*) Хай будзе пахвалены!

Гапон. На векі векау.

Марыся. Ах! (*спусьціушы вочы, нізначна узіраецца на Пятрука і грозіць яму пальцам*).

Пятрук. Добры дзень, бацька Гапон! Добры дзень, маці Куліна, добры дзень, Марыся! (*кожнаго цалуе у руку*). Якая тут у вас вазьня?

Гапон. Баш, мы с кабетай ехалі ранкам з места ды на калесах паснулі. Панас,—ніхай яму дабро,—сваім гашчэннем амарочыу нам галовы, дык вось прыгода сталася: пад самым домам злодзей выпраг кабылку. А ты, Пятручок,—што ты у нас робіш,—пэуна за Марысяй прыцягся? Кепска, што для дзяучат кідзеш службу. То ж нішто з гэтаго ні будзе,—я ужо Марысю абецау Панасу. Ен, бач, мне дакляравауназычыць трыццаць рублеу даплаціць аканому за кабылку. Ой, горкая ж мая долячка! Гдзе ж я адшукаю яе?...

Пятрук. Бацька Гапоне, ні прагневайся да паслухай мяне з увагай. Я хоць яшчэ і ні стары да пацягауся па Божым сьвеці здаволі; быу і на кані і пад канем. Ой, ні з аднэй печкі прышлося мне на долю хлеб спажываць. У вас адно дзіцятко,—гэта кажуць, як вока у лбе. Тож калі вы яе адпусьціце у чужую хату ды яшчэ да мужыка ні па сэрцы, то бедная зязюлька, таскуючы па бацьках, гатова і замерці. А вы ж тут без яе ці будзеце вяселы? Да і хату хто паддзержыць, тож ні маеце дзяцюка... Яна ж, бедная, будзьце пэуны, за Панасам ні нажывецца,—таска без пары зьвядзе яе у магілу; тады чыя ж рука на старасьці прымкне вашы вочы? Хто па магілках памяне душачкі вашы?..

Куліна. (*плачучы*) Прауда, прауда, мой Пятручок! Я ні сто раз тое, казала, да на ліхо вельмі упарты. (*Марыся плача, закрыушы вочы хвартушком*).

Пятрук. Як казел у капусьце.

Гапон. Бачыш, мой Пятручок, ен пазычае мне трыццаць рублеу.

Пятрук. Паслухайце ж. Я лепшую падам раду; параю вам такога, што і дачушкі вашае ні вывядзе з дому; места трыццаці пяцьдзесят рублеу, і то ні пазычыць, а так дасьць вам на запамогу гаспадаркі. Да што яшчэ важней,—скацінку вашу адшукае, а вы узаем вазьміце яго к дачцэ у прымакі. Ці гэтак складна будзе?

Гапон. Да мой жа ты лебядзька, нарай жа ты нам гэткаго дабрадзея...

Куліна. Што б толькі Марыся ні чуралася, а то яна бедная за Панаса ужо выплакала зрэнкі.

Марыся. Калі ні за Панаса і пры бацькох астануся, то ужо і плакаць ні буду.

Пятрук. Ага!..

Спазнала галубка скуль самец буркуе;
Тужыць перастала, ручнікі гатуе.

Марыся. Паганец ты, без кепікау таж ні мінуты ладам ні пагаворыш. (*бье яго,—ен адскаківае*)

Гапон. Што гэта ты добраго чалавека кулакамі частуеш?

Пятрук. Нічога, ойчэ Гапоне, ведаеце прыпавесьць: хто каго любіць, той й таго чубіць. Ото ж сужоны, катораго вам раю,—гэта я сам, а калі ваша ласка будзе прыняць мяне у прымакі к Марысі і паблогаславіць нас,—чаго і яна вельмі хоча, хаця дзеля сароміівасьці быццам чураецца,—то наперад вазьміце ад мяне пяцьдзесят рублеу, з іх трыццаць сягоння ж адпясіце аканому.

Гапон. А як жа с кабылкай будзе?

Пятрук. Дзеля кабылкі вось што выбрываецца: як вы на калесах паснулі, а яна прыстала,—жыд, які-сь канакрад, ціхінька адпрог, а сустрэушы нас сягоння па палудні — пусьціуся з маім панам у торг: слова за словам, кабылка за пятнаццаць рублеу перайшла к нам, а цяпер у стайні нашаго двара авес с другімі коньмі спакойна спажывае.

Гапон. Ці ж твой пан ні сьцяміу, што яна крадзеная, —асабліва, што нехрысьць так танна яе уступіу?

Пятрук. Мой пан лепш любіць купляць крадзенае, бо кепствам можна выкруціцца. Ото ж, ойчэ Гапоне, ідзіце да аканома, аддайце грошы і папрасіце, штоб заглянуу з вамі да стайні; а калі спазнаеце, што гэта ваша кабылка, то нічога нікому ні кажучы, на усю почку ляціце да стану аб'явіцца там аб кражы і у каго яна знаходзіцца: тож прасіце, каб вам яе вярнулі.

Куліна. Вось, здаецца, малады, а старога дурня навучыу розуму. Мы пойдзем у хату, а вы падкаціце пад паветку калесы, ды ідзіце да работы.

Пятрук. (*паказваючы на Марысю*). А з намі што будзе?

Гапон. Бяры яе, бяры! Ніхай вас Бог блогаславіць, як мы блогаслауляем, бацькаускім сэрцам прымаем цябе за сына. Толькі ж глядзі, трымай вухо востра, бо з яе будзе задорлівая жонка,—пашла, бач, па матцэ.

Куліна. Ні зважай на яго брахню, мой Пятручок, яшчэ ні выцьверазіуся.

Пятрук. Ні журыцеся, ойчэ Гапоне, а паслухайце прыпавесьці:

Змагла піла хвою, дуб,—
Залеза сьпіліла,
Да на цьвердай сталі зуб
Суздром вышчэрбіла.

(Выходзяць: Гапон, за ім Куліна, далей Пятрук, а за ім ідзе Марыся і бье яго кулаком па карку; Пятрук павертаецца да яе і, сьмяючыся, паутарае апошняе слово: «вышчэрбіла»).

**Заслона.**

(Канец будзе).



## З вершау Надсона.

Разьмяркоуваці моц, як скупы, я ні умеў.
З ніспакойным і вечным жаданнем адным
Я ні жыў, а плыў воскам, гарэў,
Як ліхтар, што калышыцца ветрам начным.

Цэлы сьвет я маніўся душою абняць,
Цэлы сьвет я хацеў зразумець і любіць,
Навят ноч было брыдка адну пераспаць,
Каб ад думкаў цяжкіх мне яе ні забраць
Ды у вадно каб два жыцці ўмясьціць.

І ляцелі шалёныя з імпэтам дне:
Гурбы кнігаў вакол, чад сэрдэчных балеў,
Жах ад ворагоў злых, поман добрых сяброў,
І усяляк-жа даводзілось мне.

Цалаванням заменьваў я песьню сваю,
А праз меч нават чаркі да дна ні дапью:
Дзеля душных муроў гарадзкіх
Развітаўся з зацішшам радзімых палёў
Ды ляцеў ў моро бедных пакутных людцоў,—
Гараваць навучаўся ад іх.

І страшэнная старасьць далёка ішчэ,
Йшчэ ні страшыць яна дамавінай,—
Дык чаго-ж мне на сэрцы так горка пячэ,
Стаяць думкі смяртэльнай руінай?!

І няужо-ж усё жыццё да дна вычэрпаў я?
Ці-ж німа чаго мне ад яго ужо чакаць?
Дзе вадзіцель-прарок? Так прыдзі-ж, мой судзьдзя,
Каб змахнуць гэты ўціск ды ні спаць!..

**Макар.**



# КРОНІКА.

**Земскім і гарадзкім самаупраўам Беларускай народнай рэспублікі.** Усебеларускі зьезд прэдстаунікоу земствау, гарадоу, зямельных і харчовых камітэтау, салдатау, селян, работнікау, каопэратывау, нацыянальных беларускіх радау і іншых арганізацыяу, які быу разагнаны Мінскаю большэвікоускаю уладаю, даручыу Радзе тварыць арганізацыю грамадзкіх сілау Беларусі, маючы на мэці яе адраджэнне і дзяржаунае будауніцтво.

Выпауняючы волю Зьезду, агаласіушаго рэспубліканскі лад у рубяжох Беларусі і пастанавіушаго аб утварэнню краевае улады, Спауняючы Комітэт Рады 20 лютаго гэтаго року выбрау Народны Сэкрэтарыят Беларусі, як упоуважнены орган народнай улады, а сьледам за тым 9 сакавіка ім была канстытуіравана Беларуская Народная Рэспубліка.

Вялікая адпаведальнасьць выпала на нас. Перад намі шлях доугі і цяжкі. Наша мэта—зьеднанне усіх частках Беларусі і зьдзейсьненне соцыяльных рэформау у інтарэсах працоунаго люду. Толькі пры арганізованасьці народау Беларусі, іх злучанасьці і пры актыунай народнай дапамозе нас ні страшаць ніякія труднасьці. Мы клічам усе органы тутэйшага земскаго і гарадзкога самаупраулення падзяліць з намі адпаведальнасьць і працу і падтрымаць нас маральна і матэрыяльна.

Будучы упэуняны, што вам, так як і нам, дорагі інтарэсы нашаі бацькаушчыны Беларусі, яе воля й самаадзначэнне, мы чакаем вашаго хуткаго й гарачаго одгуку.

Старшыня Рады Усебеларускаго Зьезду **Я. Серада.**

Пісар **Т. Грыб.**

19 сакавіка 1918 г.
г. Мінск-Беларускі.

---

**Устаўная Грамата да народаў Беларусі.**

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнаго жыцця. Пасьля трох с паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 15-17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронючы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Комітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрою Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1.—Беларусь у рубяжох разсялення і лічбеннай перавагі беларускаго народу абвешчаецца Народнаю Рэспублікай.

2.—Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы па асновах агульнаго, роўнаго, простаго, патаемнаго і прапорцыянальнаго выборчаго права, ні зважаючы на пол, народнасьць і рэлігію.

3.—Да часу, пакуль зьбярэцца Установчы Сойм Беларусі, законодаўчая ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць радзе Усебеларускаго Зьезду, дапоўненай прэдстаўнікамі нацыянальных меньшасьцяў Беларусі.

4.—Спаўняючая і адміністратыўная ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адвет.

5.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумлення, нізачэпнасьць асобы і памешкання.

6.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсональную аўтаномію; абвешчаецца роўнае права усіх моваў народаў Беларусі.

7.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, хто самі па ёй працуюць. Лясы, возеры і нутро зямлі абвешчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8.—У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі устанаўляецца найбольшы 8-і гадзінавы рабочы дзень.

Абвешчаючы усе гэтыя правэ і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Комітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнаго парадку жыцця у Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоўнаго люду. А так сама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часі Установчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адветнай нашай працы.

*Спаўняючы Комітэт Рады 1-го Усебеларускаго Зьезду.*

Выдана у Мінску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.

---

**«Нямецка-польская праграма угоды»**

Віленская беларуская газэта «Гоман» памешчае у № 23 г.г. перадрук стацці з нямецкай газэты «Berliner Tagebl.» [№ 132 с 13. III 18.], надрукованую там пад вышэйпамянёным загалоўкам. Стацця гэта—справаздача аб перагаворах, якія апошнімі днямі адбываліся у Бэрліне між палякамі і кіраўнікамі партыяў пераважываючых у нямецкім парлямэнці.

Стацця гэта—вельмі цікавая для нас, беларусаў, і пазволім сабе яе перадрукаваць.

«Польска-нямецкія контрасты, каторыя усё больш завостраюцца у Польскім каралеўстві, выклікаюць з абодвых бакоў жаданне знайсьці аснову дзеля трывалай угоды, каторая здаволіла-бы патрэбы абедзьвех старон. З гэтай мэтай польскія актывістычныя партыі—пэўне з ведама рэгенцкай рады—шукалі і завязалі зносіны с пераважаючымі у Рэйстагу нямецкімі партыямі. Польскія паўнамочнікі пазаўчора адбылі нараду з некаторымі членамі парлямэнту у тым ліку з Науманам і Рэйхэнбэрг'ам і уложэныя на пісьме іх праэкты былі учора разгледжаны на агульным заседанні большасьці Рэйстагу. Рэзультат гэтых перагавораў, болей-меней, такі: Польская дзяржава прызнае на захадзе тыя граніцы, якія былі перад вайной, і гатова бліжэй разгледзіць пытанне аб прылучэнні Польшы да саюзу цэнтральных дзержаў. За гэта партыі вялікшасьці Рэйстагу—так сама пэўне са згодай ўраду—абецуюць бараніць Польшу ад усякай анэксіі, якой дамагаюцца усе немцы, асабліва ж аднесьціся сурьёзна да польскіх пратэстаў у Холмскай справі. У будучыне Польшчы мае быць дадзена магчымасьць на аснові права на самавызначэнне пашырацца на усход коштам заходняй Расіі, напр., на Меншчыну, дзе ёсьць вялікія польскія інтарэсы, каб гэтак утварыўся для Польшчы шырокі калідор да Расіі між Літвой і Украйнай. Далей, згодна з жаданнем вялікшасьці Рэйстагу, Польскай дзержаві будзе дадзена помач у магчыма хутчэйшым наладжэнню гасударсьцьвенаго устрою. Але трэба перш ішчэ перамагчы вялікія перашкоды: павінны быць выпоўненыя вядомыя варункі, і толькі пасьля гэтаго вялікшасьць Рэйстага абавяжэцца аказаць паддзержку гэтым праектам. Польская заява аб прызнанні заходніх граніц павінна быць перароблена паводлуг жадання Рэйстагу. Далей могуць узьняцца ішчэ розныя іншыя пытанні, напр. а польска-літоўскай граніцы, каторыя могуць вызваць нізгоднівасьць. Перш-на-перш, вялікшасьць Рэйстагу дзяржыцца таго погляду, што ніякая пастанова ні можа быць прынята аканчацельна, пакуль нямецкі урад ні абмяркуе усяго разам з аўстрыяцкім урадам. Перагаворы між Бэрлінам і Венай павінны адбыцца перад разглядам гэных пытанняў у Рэйхстагу. Ішчэ вялікшасьць Рэйхстагу справядліва лічыць канешна патрэбным, каб польскія прапазыцыі былі афіцыяльна абвешчаны у Варшаві і каб гэтым быў створан цьверды грунт дзеля заняцця пазыцый большасьці Рэйхстагу.»

Гэтакі зьмест стацці. Канчаецца яна так: «Бытнасьць у Бэрліне ген. фельм. фон-Гіндэнбурга, ведама, ні мае з гэтым перагаворамі нічога супольнаго.»

«У гэтай заяві»—дадае ад сябе «Гоман»—«трэба бачыць для нас добрую запаведзь: ні можа быць ніякай спорні, што са стараны фельдмаршалка Гіндэнбурга трудна спадзевацца прыхільных адносін да польскіх захватных пляноў.»

---

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.